# Звон.

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад Рэдакцыі.
Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі
**м. Мінск. Юбілейны дом.**

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня, апрача сьвят
ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

**Цана абвестак:**
за 1 радок за тэкстам . . . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку 2 м.

№ 2. Менск, Серада 27 жніўня 1919 г. № 2.


Дзеля вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу.*



## Трэба рабіць да канца.

Зараз-жа, посьле заняцьця Менску, некаторые польскіе газэты сталі пісаць, што пара сцьміцца, што далейшы працяг наступленьня польскага войска за Бярэзіну азначае дапамогу тым, хто змагаецца у сябе дома з большавізмам. Можа гэта і мела-б слушнасьць, каб не стаяло яно руба супраць таго, што гаварылося ад імя польскага войска насяленьню нашага краю, у вочы паверыў беларускі народ і чаго спадзяецца ён ад польскага войска, каторае пасуваецца да Днепру і сярод каторага знаходзіцца шмат сыноў гэтае зямлі.

Хіба Менскам ці Бярэзіну і канчаецца той цяжка пакрыўджаны край, што насіў калісь слаўную назву Вял. Кн. Беларуска-Літоўскага і да народу каторага зьвяртаўся Начальнік Польскага Паньства, будучы родам з гэтага краю і добра ведаючы цяжкую долю беларускага народу? Хіба за Бярэзінай жыве ўжо ня той-жа самы, праз вякі уціскаsucceeded, беларускі народ, што і над Менскам? Хіба там, па-над Днепрам, ужо ня тая самая Беларусь, каторай Польшча многа і многа вінна за тую крыўду, якую яна учыніла ёй посьле Люблінскай уніі? Хіба народ тае часткі Беларусі, што за Бярэзінай, не дзяліў свае горкае, пад'ярэмнае долі разам з народам гэтае часткі, што перад Бярэзінай? Чым-жа горшая тая зямля і чым правінавацілася там частка беларускага народу, што яна пакідаецца ў палоне? Хіба тым, што больш вытрывала, горш адчувала боль ад удару хціўага, як стаяўшая скраю і прыняўшая на свае плечы усю моц напору з усходу? Дык тым больш яна мае права спадзявацца, што і для яе настаў час вызваленьня.

Беларусь *мае права* спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампана. Стары друг лепш новых двух... Няўжо-ж дзеля таго, што Беларусь так занепала і абяднела і не без гістарычнай віны з боку Польшчы, дык яна ня мае права на братэрскую помач ад свайго вінавайцы ў гэты рашучы і адпаведны момант? Не, разам мы занепалі, разам нам трэба і вясьці свае адбудаваньне! Трэба рабіць да канца.

Сыны вольнай Беларусі знойдуць ў сабе досыць сілы, каб утварыць свае слаўнае войско і утрымаць тое, што будзе здабыто, і потым ніколі не адмовяцца стаць у прыгодзе таму, хто ў цяжкі момант братэрскі надаў яму руку помачы.

## Наш голас.

Бальшавікі скончылі свае крывавыя опэрацыі ў Менску, як венікам вымецена цэлая армія ўсяляkіх камісараў „Западной областьі" адгэтуль, з самога сэрца Беларусі, дзе год таму, з лішкаю, прагрымело адважна, ня ўзіраючыся на нямецкую окупацыю, вешчае слово аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Ідэалёгі „белорусской автономии", беларусы „так себе", беларусы „через „ѣ",—гэтыя „тоже бѣлоруссы" не адважыліся тады прылучыць свой голас да „сепаратычных" дэклярацыяў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, шукаючы ўсялякіх довадаў, хапаючыся за іх, як топленік за саломінку, каб толькі як нібудзь не дапусьціць „отторжения от России"..

Могуць падумаць, што ідэялёгі расійскай недзялімасьці баранілі, як яны кажуць, „завоевания Великой Русской Революции", што яны баяліся, каб як-нібудзь беларускія незалежнікі ня зьнішчылі социяльных правоў і здабыткаў працоўнае нашае беднаты. Але ж не. Яны гэтаго не маглі казаць і не казалі, бо незалежнасьць Беларусі абвяшчалі социялісты мо' й ня горшыя за іх і, разумеецца, ніякіх социяльных прычынаў жаху іх шукаць ня трэба. Тым болей, што дэкларацыя аб незалежнасьці чорным па белым гаварыць аб самых шырокіх социяльна-палітычных правох працоўных масаў Беларусі.

Дэмонстрацыйны выхад „земцаў" і „думцаў" з Рады Рэспублікі і вайна з „сепаратызмам"—справа іх палітычнае орыентацыі.

Але годзі з імі сварыцца, годзі ваража глядзець на тых, аб кім толькі і можна сказаць, як аб тым эвангэльскім чалавеку, што быў сьляпым ад нараджэння: „ні ён ня вінават і не бацькі яго".

Уся наша шчыра дэмократычная (а ў большасьці мо' й социялістычна думаючая) народная інтэлігэнцыя, што паходзіць проста ад цела і крыві народу працоўнага, мела няшчасьце за сто з лішкаю гадоў маскоўскаго ў нас панавання, значна змаскалець, немаль дашчэнту асымілявацца і захварэць на вялікаросаў.

Гэта хвароба коле ў галаве, як чад, але гэтак сама, як і чад, яна хутка праходзіць і нам здаецца, што час ісцалення надыйшоў.

Ен надыдзе яшчэ і для тае значнае грамады шляхцюкоў, якія за часы панавання Польшчы мелі „гонар" і няшчасьце асымілявацца на іншы лад. А вышэйшыя станы павінны самы зразумець і вызначыць сябе, калі ім ня хочацца, каб іх давяла дэ гэтаго стыхійная народная бура.

Сярод нас не павінно быць мяжы недаверчасьці, што быццам дзеліць нас на „бѣлоруссов" і „бялорусаў". Гэта так толькі здаецца, гэта грэх мінуўшчыны, палітычнага над намі ўціску і культурнага нашаго заняпаду. Адною магутнаю грамадой, зьеднаўшыся ў адзін моцны, непераможны моноліт, павінны дружна мы стаць на варце

дзяржаўна - палітычнай незалежнасьці, вольнасьці і шчасьця Бацькаўшчыны. Бо хмары, якія адвечна засьцілалі ад нас небо і сонцаву яснату, робяцца, вось, бялейшымі. Яны радзеюць.

Беларусы! Нам трэба бараніць сваю долю і незалежнасьць самым.

Хто мае вушы каб пачуць—хай чуе!

Хто пачаў адчужацца—хай вертаецца да свайго роднаго, дадому.

**Крауцоу Макар**



# ІВАН ЛУЦКЕВІЧ.

23 гэтага жніўня у Вільні адтрымана тэлеграма з Закапаньс (Галіцыя) аб сьмерці Івана Луцкевіча. Нябошчык быў адным з першых піонэраў беларускага нацыянальнага руху, ахвяраваўшы усё жыцьцё сваё роднай справе. Ня было ні воднае галіны працы, у якой бы не выяўлялася чыннасьць І. Луцкевіча: паміж іншым, ён быў заснавацелем „Беларускага Выдавецнага Т-ва“ у Вільні і фактычным рэдактарам „Нашай Нівы“. Пасьля сябе ён пакінуў даволі значны музэй і архіў, што зьбіраў уласнаю працаю на працягу ўсяго жыцця свайго, і перадаў у 1918 року беларуск. нацыянальн. арганізацыям. Некольні гадоў таму нябошчык захвараў на сухоты. У маі месяцы нябошчык, будучы безнадзейна хворым, выехаў лячыцца на курорт Закапаньс, але лекі ўжо былі запозвыя.

Вялікі жаль ахапляе беларусаў ад гэтае цяжкае страты у асобе аднаго з найвіднейшых і найстаршэйшых ваякаў за нацыянальную ідэю. Вечная памяць табе, слаўны грамадзянінe!

## Чаму мы пішам Менск, а ня Мінск?

Менск - места беларускае, а дзеля таго, каб даведацца, як яно завецца, трэба запытаць у беларускаго народу. А беларускі народ скрозь заве его М е н с к о м, а ня М і н с к о м, і толькае маладзейшае пакаленьне праз школу, або чуючы ад паноў і чыноўнікаў, налажылося зваць яго М і н с к о м. Дзеля таго, каб праверыць, ці не памыляецца «просты» народ, завучы сэрцо свайго краю М е н с к а м, дык трэба перагледзіць даўнейшые гістарычные дакумэнты, пісаные, як цяцер кажуць цёмные, неадукованые „абразованые“ людзі, у простай беларускай мове. І вось дакумэнты тые сьведчаць, што продкі нашы, будучы вучонымі, называлі свой горад М е н с к а м. М е н е с к а м, што знача: места, дзе людзі мяняліся таварамі, або гандлявалі.

Гэтак сама беларускіе летапісы паказываюць, што Вільню трэба называць В і л ь н я, а ня В і л ь н о, або В і л ь н а. Гэта чужакі перакручваюць нашые беларускіе назвы, як расійцы, напрыклад, перакруцілі старое славянское слово д а л о н ь і кажуць л а д о н ь, або т а р э л к а, заміж—т а л е р к а (ад слова талер, круглы). Гэтак сама мы, беларусы, кажам на горад Л ь в о ў у Галіцыі А л ь б о ў. („Прыехаў мой Яначка з Альбова,—пытаецца: мілая, ці дома“, як сьпяваецца ў песьні).

**Я. Л-к.**

## Беларуская кроніка.

**Новая беларуская часопісь.** 22 жніўня вышла ў Вільні новая беларуская газэта «Крыніца» орган беларускага каталіцкага духавенства. Рэдагуе Кс. Ад Станкевіч.

**Новая беларуская партыя.** У Вільні заснавалася ініцыятыўная група беларускай народнай партыі, якая ставіць сабе мэтай абьеднаньне беларускага селянства і народнай інтэллігэнцыі на грунце нацыянальным і эконамічным. У склад партыі, між іншым, уваходзяць грамадзяне Станкевіч, Лукаш, Мядзёлка і інш.

**Узрост беларускага руху.** У Вільню штодзенна зварочваюцца з паблізкіх паветаў селяне з просьбаю даць ім для школаў беларускіх настаўнікаў. Дзевяць дзесятых з зварочваючыхся аб гэтым да беларускага вучыцельскага хаўрусу —каталікі, сьвядомыя беларусы.

**Літоўска беларускі сойм.** Па весткам, выходзячым з' „Preględu Wieczornego“ усе нова-занятые бе-

## З В О Н.

Калісьці Жыгімонт у знак народнай моцы,
З здабытых ім гармат адліці звон казаў.
У расплаўлены мэтал, для гучнасьці, ахвачы
І серабро і золато народ сваё кідаў.
І вышаў дзіўны звон. Сваім магутным зыкам
Ен сьведчыць і цяпер усім аб славе той,
Што мог сабе здабыць народ ня моцным крыкам,
А велькасьцю ахвяр, пралітаю крывёй.
А наш народ праліў крыві свае ня мала,
Наш край скалёсілі гарматы не адны.
Гісторыя усю нам славу заховала,
Хоць ня гудуць аб ёй магутные звоны.
Яны усе у нас на кулі пераліты,
Пустуюць вежы ў нас з вайны пачатку дзён.
І толькі аж цяпер Жыгмонта семяніты
Завуць і нас, браты, адліць свой Славы Звон.

Менск. Ю. Ф.

# Кароткая гісторыя

### культурнага жыцьця беларускага народу.

I.

Цяпер, калі мы пачалі тварыць сваё вольнае жыцьце, калі пытаньне пра нашу незалежнасьць пастаўлено руба і калі гэтае пытаньне набрало сабе такога вострага характару,—як раз дачасу будзе спыніцца, азірнуцца назад і кінуць вокам на той доўгі шлях, што прайшоў наш народ.

Ці-ж сапраўды мы маем права на сваё ўласнае нацыянальнае жыцьцё, ці маем мы права на тую дзяржаўную незалежнасьць, якой так упарта дамагаемся? Ці праўда, што народ наш—асобны народ: ці-ж мае ён сваю культуру, культуру орыгінальную, сваяродную? Ці ў прамінулым ёсьць у яго свая гісторыя, сваё асабістае жыцьцё? Ці сапраўды нам патрэбны асобные школы з нашаю беларускаю моваю, асобные унівэрсытэты, ці можа гэта толькі нашые выгадкі, як пра усё гэта цяпер кажуць несьвядомые людзі і ворагі нашага нацыянальнага жыцьця?

Вось на гэтые пытаньні нам трэба адказаць. Бо калі наша мова мае сваю доўгую гісторыю, калі пра гэтую гісторыю можна выкладаць цэлы курс навукі, то значыць гэта ёсьць сапраўдная мова, а калі ёсьць асобная мова, то ёсьць і асобны народ.

Мова—гэта ня толькі просты сімбол разуменьня, бо яна вытвараецца ў пэўнай культуры, ў пэўнай гістарычнай традыцыі. У такім разуменьні мова—гэта найясьнейшы і найлепшы паказчык нашай душы, гэта найпершая абарона нашага псіхічнага я. Мова-душа кожнай нацыянальнасьці, яе сьвяточны, яе найцаннейшы скарб. У мове наша старая і новая культура, азнака нашай нацыянальнай асобнасьці. І покі жыве мова—жыве й народ, як нацыянальнасьць. Ня стане мовы,—ня стане й нацыянальнасьці: яна ўся распарушыцца паміж дужэйшым народам. Вось чаму мова заўжды мае такую вялікую вагу ў нацыянальным руху і дзеля гэтаго ставяць яе на першае пачэснае месцо сярод галоўных нашых пытаньняў. Вось дзеля гэтага і ворагі нашы пастаянна рупіліся, каб забара-

ў Варшаве выпусьціць ўрадовае паведамленне.

Урад украінскі, — скончыў Пілінчук,—ідзе да прыязьні з Польшчаю, і ў гэтым кірунку ня будзе чыніць а ніякіх труднасцяў. Для ўраду найважнейшым есьць сягодня саюз з Польшчаю і гэтай справе ён здолае пакарыць ўсе іншыя драбнейшыя справы.

**Найвышэйшая Рада.** Клемансо вярнуўся ў Парыж і заняў кіраўніцтво ў Найвышэйшай Радзе. Найвышэйшая Рада разглядала 20 гэтаго месяца першы раз трактат з Венгрыяй. Устаноўлены варункі, што датычаюць арміі, флоту і авіацыі. Вэнгрыя зможа ў будучыне мець толькі 15,000 салдатаў.

**Выборы у Вэнгрыі**. Корэспондэнцкае бюро паведамляе з Будапэшту: Рада Міністраў пастанавіла расьпісаць выбары ў сойм на 20 верасьня.

**Протэст проці паходу Дэнікіна.**

У часопісі „L' Ukraine", што выходзіць ў Лозанне, была зьмешчана нота украінскае дэлегацыі ў Парыжы, паданая мірнай конфэрэнцыі, дзе выказваецца протэст проці паходу Дэнікіна на украінскую тэрыторыю.

**Эвакуацыя Сувалшчыны**

У Сувалкі выехала камісія дзеля прыёму ліні і вакзалу жалезнай дарогі у Сувалках. Немцы выходзяць ўжо с паветаў сейненскаго і сувальскаго. Польскія войскі займуць пакінутые паветы яшчэ на гэтым тыдні.

**Новая пропазыцыя Леніна**.

Як паведамляюць з Бэрну (Швайцарыя), Ленін зьвярнуўся зноў да мірнай конфэрэнцыі з пропазыцыяю аб міру. Ленін згаджаецца на ўсе эканамічные варункі Антанты і бярэ абавязак заплаціць ўсе даўгі, а нават і сам адхіліцца ад ўлады. Варункі гэтыя адкінуты.

ВЕНА. «Neue Wiener Tageblatt» паведамляе з Бэрліна: У Фінскай затоцы дайшло ўчора? да вялікае марское бітвы паміж флотамі ангельскім і бальшавіцкім. Наколькі ведама, ангельцы затапілі гэткіе расійскіе карабле: „Андрэй Первозванный", «Петропавловск», адзін падмаговы карабель, падводную чайку, карабель перавозны і вартавы карабель. Ангельскія марскіе сілы згубілі толькі тры маторныя чайкі, пры чым згінуло 8 афіцэраў і 3 салдаты.

**Канец бальшавізму у Вэнгрыі.**

ВЕНА. Паведлуг вестак з Будапэшту, тамака арыштованы ўсе хаваючыеся ў месьцы сябры бальшавіцкага габінэту. Адзін з іх, Ляшлё, кіраўнік рэволюцыйнага трыбуналу, бачучы, што ня ўцячэ ад арышту, бо жыхары Будапэшту заўзята знаходзяць і аддаюць уладам, застрэліўся.

**Пярэрва польска-нямецкіх перагавораў.**

ВАРШАВА, 21—VIII. У аўторак на пасядзэнні польска-нямецкай камісіі у Бэрліне польскі старшыня Врублеўскі заявіў, што ў зьвязку з тым, што дзеецца ў Верхняй Сылезіі польская дэлегацыя змушана перарваць перагаворы.

У адказ на гэта, па ініцыятыве гэнэрала Дуконта, Прадстаўнікі Антанты утварылі супольную конфэрэнцыю аб справе Верняй Сылезіі. Гэнэрал Дуконт запропанаваў устанаўленне супольнай польска-нямецкай адміністрацыі і грамадзкай варты з мейсцовай люднасьці. Па просьбе немцаў конфэрэрнцыя адложана на чацьвер да прыбыцця ваеннага міністра Носке і прадстаўнікоў сылезыйскіх уладаў.

**Аб збройнай дапамозе для Сылезіі.**

ВАРШАВА, 22—VIII. Сягодня адбыліся масавыя сходы, на якіх пастаноўлена пажадаць, каб зараз-жа была зроблена збройная дапамога насяленню Верн. Сылезіі, якая сьведчыць крывавым плебісцытам, што хоча належаць да Польшчы. Пастановы аддаты прадстаўнікам дзяржаваў каоліцыі. Пажадано склікаць Сойм, які аб гэтай справе падаў бы свой голас.

## Паведамленьне Польскага Гэнэральнага Штабу.

Ад 22 жніўня 1919 г.

**Фронт Л.-Беларускі.** На участку паўночным мы адбіжі падвойные атакі бальшавікаў на абложаные намі **Карыяны**.

У кірунку на Глыбокае нашые аддзелы дасьцігли і занялі двор Бярэзьвіча. На участку Докшыц мы з'нялі лінію Красьнік-Шклянцы, Вострыбок, Барсукі, Пятровічы. На рэшце фронту—без перамен.

**Фронт Валынскі.** Рухавая чыннасьць разьведачных патрулёў.

**Фронт Галіцыйскі.** Спакой.

Сп. аб. Шэфа Гэн. Штабу
**Галлер,** палкоўнік.

Ад 24 жніўня 1919 г.

**Фронт Л.-Беларускі**. У 5-дзённых боях разьбіты праціўнік адступіў у кірунку на Полацк. На поўдне і усходзе ад ж.-дарогі Маладэчна-Полацк нашы аддзелы страцілі лучнасьць з праціўнікам. Распачатая акцыя 19 жніўня г. г. дзеля забраньня ліні рэчак Дзісны-Мінюты-Сушы-Бярэзіны 23 жніўня дасьцігла усьпеху.

22 жніўня правае крыло пр. гэн. Рыдза Сьміглега дасьцігла ліні р. Бярэзіны, вядучы заўзятыя бойкі з праціўнікам пад Чарніцамі, гдзе праціўнік застаў разьбіты, узято у палон шэфа штабу 17-й дывізіі, эскадрон кавалерыі і значнае чысло карабінаў машынных.

Дзеля глыбокаго абходу праціўніка паўздоўж ж. д. Маладэчна-Полацк правае крыло цэнтральн. групы дасьцігло моцным маршам Галубіч-Міхалі-Баброўічы да ст. Жабкі, не спатыкаючы нідзе праціўніка.

Праціўнік зьнішчыў 60-і мэтровы мост пад Пусьця-Мізудзіна і зграмадзіў на тым участку ж. д. многа вагонаў, панцэрных цягнікаў; развіваючы сваю баявую лінію праз Плісу-Гнілякі-Савінкі-Люскі, праціўнік после гадзіннай бойкі змушаны паддацца. Здабыта 2 панцэрн. цягнікі, 7 паравозаў, 120 вагонаў, 5 гармат,—з іх адна 15-і цт. гаўбіца, шмат амуныцыі і каля 600 палонных. За 23 жніўня з боем занята лінія Пліса—Лужкі—Шанкоўшчына. Чысло палонных павольшваецца і ўзрасла да 40 аф. і 900 салдат.

Павед. фронту
Л.-Беларускага.

*Рэдактар-выдавец*
*І. ЛУЦЭВІЧ.*



З дозвал. Цэнзуры. Друкарня Я. Грынблята, Менск.